 нумары:

Пастановы IV З'езда БГКТ

В. САВА — МАРТА

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ






ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 26 (383) | ГОД VIII | 30 ЧЭРВЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.




Перад дэлегатамі З'езда трэба паказацца як з найлепшага боку — думаюць самадзейнікі, рыхтуючыся да выступлення.

Фота: В. Рудчык

# ПАСТАНОВЫ IV З'ЕЗДА БЕЛАРУСКАГА-ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

### У ГАЛІНЕ СПРАЎ АРГАНІЗАЦЫЙНЫХ:

1. Зыходзячы з пункту гледжання, што гурток БГКТ з'яўляецца асноўнай формай працы Таварыства, заклікаем ГП БГКТ да арганізацыі асветных курсаў для актыву гурткоў з намерам запазнання яго членаў з гісторыяй, літаратурай і культурай Беларусі, для азнаямлення з асноўнымі формамі мастацкай дзейнасці і абмену вопытам набытым ў тракце працы.

2. Вызначыць сталых апекуноў з боку ГП БГКТ над паасобнымі гурткамі з забавязваннем іх да пастаянных і рэгулярных кантактаў з падапечнымі гурткамі.

3. Увесці ў «Ніву» пастаянную рубрыку «З жыцця БГКТ», даючы шырокую інфармацыю аб грамадска - культурнай працы нашага таварыства ў вёсцы.

4. Старацца пашырыць дзейнасць гурткоў па пытанні сельскагаспадарчай асветы, уключаючы іх такім чынам да рэалізацыі гаспадарчых заданняў пастаўленых у апошніх рашэннях ПАРП.

5. Імкнуцца пашырыць рады членаў БГКТ з намерам давядзення іх ліку да 6000 у найбліжэйшыя гады.

6. Заахвочваць членаў БГКТ да актыўнага ўдзелу ў грамадскіх чынах накіраваных на ўпарадкаванне нашых вёсак, дарог і будовы культурных аб'ектаў.

7. Старацца наладзіць шырэйшы кантакт з БССР, а таксама абменьванне вопытам з таварыствамі нацыянальных меншасцей у Польшчы.

### У ГАЛІНЕ СПРАЎ КУЛЬТУРНЫХ:

1. Увайсці ў кантакт з Міністэрствам унутраных спраў і Міністэрствам культуры з намерам арганізацыі Беларускага дзяржаўнага тэатра з сядзібай у Беластоку з аб'яздовай трупай, якая была б у стане заспакоіць пільныя культурныя патрэбы беларускага насельніцтва Беласточчыны.

2. З увагі на тое, што час трывання радыёгутарак не вычэрпвае абсалютна патрэб насельніцтва, звярнуцца да кампетэнтных устаноў з прапановай пашырэння беларускіх праграм у беластоцкім радыёвяшчанні да 15 мінут у дзень, перасоўваючы іх з паабедняй пары на вячэрнія гадзіны.

3. У сувязі з тым, што лік беларускіх кніжак, якія знаходзяцца ў бібліятэках і бібліятэчных пунктах, не адказвае ўзрастаючым патрэбам, старацца забяспечыць прыплыў новай беларускай літаратуры з БССР.

4. Зыходзячы з палажэння, што літаратурная творчасць мясцовых аўтараў з'яўляецца адным з найбольшых дасягненняў нашага руху, зрабіць намаганні ў кірунку рэгулярнага выдавання штогадовага літаратурнага зборніка, а таксама выдання індывідуальных зборнікаў паасобных аўтараў.

5. Прымаючы пад увагу, што беларускія раёны Беласточчыны з'яўляюцца адным з найцаннейшых этнаграфічных сховішчаў, пачыніць энергічныя крокі ў кірунку будовы беларускага музея ў Гайнаўцы. Не чакаючы на канчатковае вырашэнне гэтай справы прыступіць найхутчэй да збору экспанатаў канцэнтруючы іх у прызначаным да гэтага часовым будынку.

6. Абапіраючыся на ўзорах органаў іншых літаратурных меншасцей забавязаць «Ніву» да выдавання зборнікаў паасобных аўтараў замяшчаючых свае творы ў газеце.

7. Абапіраючыся на дасягненнях мастацкага руху ў многіх беларускіх вёсках старацца пашырыць мастацкую самадзейнасць на тыя раёны, дзе дагэтуль моладзь не праяўляе актыўнасці ў гэтым напрамку.

### У ГАЛІНЕ АСВЕТЫ:

1. У сувязі з тым, што ў паветах Дуброўскім і Сакольскім насельніцтва карыстаецца чыстай літаратурнай беларускай мовай, звярнуцца да школьных улад з прапановай адносна ўвядзення беларускай мовы ў агульнаадукацыйны ліцэй у Саколцы.

(Працяг на стар. 2)

## Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства

1. Азябла Янка
2. Альшэўскі Язэп
3. Андрэюк Лідзія
4. Антанюк Уладзімір
5. Баршчэўскі Аляксандр
6. Бялецкая Лідзія
7. Валкавыцкі Георгі
8. Вішэнка Янка
9. Врублеўскі Яўгень
10. Глэмбоцкая Яўгенія
11. Дзун Васіль
12. Другавец Леан
13. Дэмяновіч Макар
14. Карпюк Мікола
15. Кастыцэвіч Яраслаў
16. Кіндзюк Янка
17. Красоўскі Мікола
18. Крэйза Сяргей
19. Ластаўка Пятро
20. Лебядзінскі Мікола
21. Ляшчынскі Кастусь
22. Майсеня Кастусь
23. Макаль Аляксандр
24. Міруць Мікола
25. Нікіцюк Барыс
26. Рафаловіч Аляксандр
27. Рудчык Максім
28. Самоцік Мікола
29. Санюковіч Пётр
30. Семянюк Рыгор
31. Тропак Анастасія
32. Туронак Юры
33. Харкевіч Аляксандр
34. Хмялеўскі Міхась
35. Храноўскі Аляксандр
36. Швед Віктар
37. Шыманюк Сымон
38. Юзвюк Уладзімір

## Прэзідыум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства

1. Хмялеўскі Міхась — старшыня
2. Самоцік Мікола — намеснік
3. Юзвюк Уладзімір — сакратар
4. Бялецкая Лідзія — член
5. Валкавыцкі Георгі „
6. Ластаўка Пятро „
7. Майсеня Кастусь „
8. Рафаловіч Аляксандр „

## Рэвізійная камісія

1. Галёнка Хведар — старшыня
2. Грэсь Янка — намеснік
3. Кунах Аляксандр — сакратар
4. Гайдук Мікола — член
5. Кізевіч Пілін „

## З IV З'ЕЗДА БГКТ



Папулярныя артысты з «Лявоніхі» Люба Томчык і Аляксандр Каліноўскі сярод дэлегатаў былі такімі ж, як і на сцэне: вясёлымі і мілымі.

Фота: В. Рудчык

# КАЛЕЙДАСКОП IV З'ЕЗДА БГКТ

Фота: В. РУДЧЫК



Кастусь Майсеня (Гайнаўка): — У пабудове крамаў ПЗГС у вёсках Гайнаўскага павета шмат працы ўлажыла беларускае насельніцтва ў грамадскім чыне (на 3 млн. зл.).

Якуб Куршэль (Сакольшчына): — Санацыйная ўлада душыла ўсялякія праявы беларускага руху, не прызнавалі нам ніякіх правоў. Сёння мы ў братняй сям'і народаў, маем роўныя правы.



Аляксандр Баршчэўскі (старшыня камісіі пастаноў): — На падставе справаздачнага даклада, дыскусіі і справаздачы Рэвізійнай камісіі прапануем З'езду да зацверджання наступныя пастулаты, якія ў выпадку падтрымкі з боку дэлегатаў павінны стацца асновай праграмнай дзейнасці БГКТ у бліжэйшыя гады. (Ад сябе заўважым, што З'езд аднагалосна прыняў прапановы Камісіі. Пастановы З'езда ў іншым месцы).



Тав. Баярскі («Нашае Слова»): — У вас паважныя дасягненні. Можам ад вас многа навучыцца. Нашае супрацоўніцтва павінна штораз больш умацоўвацца.



Сур'ёзнасць і задавальненне можна прачытаць на тварах дэлегатаў. Гэтымі характэрнымі рысамі выдзяляўся IУ З'езд.



Танцавальная група Калектыву песні і танца пры ГП БГКТ адзначалася цёплымі словамі ў справаздачным дакладзе ГП БГКТ. Тэмпераментным танцам яна паказала, што поўнасцю заслужыла на высокую ацэнку.



Самадзейнікам з Левак (Бельскі павет) выступаць перад патрабавальнай аўдыторыяй не ўпершыню. Не так даўно яны са сваім несмяротным «Здарэннем на кірмашы» пабывалі нават у Палацы культуры і навукі ў Варшаве.

---

ра. Справы ішлі ўсё горш. Апошнія даныя: рускія перайшлі Нёман і апынуліся ля самых граніц Германіі. Англічане і амерыканцы, зразумеўшы, урэшце, што рускія арміі і без іх дапамогі могуць скруціць шыю германскаму фашызму, раптам заспяшалі. Адкрыццё другога фронта, якое адкладвалася два гады, адбылося. Саюзнікі высадзіліся ў Нармандыі.

Так, Гітлеру было ад чаго лютаваць. Ён разумеў: толькі надзвычайныя сродкі, толькі тэрор можа прымусіць краіну працягваць вайну...

Увайшоў ад'ютант. Ён прынёс шыфроўку. Галоўнае імперскае ўпраўленне бяспекі адказваючы на паведамленне Упіца аб Асвенціме пісала: руская ваеннапалоннага па клічцы Андрэй узялі, але нічога ад яго не дабіліся. Ён знішчаны.

Неўзабаве Упіцу падалі іншае паведамленне. Радыёбюро абвера заўважыла: невядомы перадатчык, які дзейнічаў з раёну Карлсцуста, ужо дзесяць дзён маўчыць. Затое заўважана незарэгістраваная рацыя, «почырк» работы якой той самы, што і карлсуцкай станцыі, але дзейнічае яна ўжо з раёну Остбурга.

Невядомая рацыя!.. Ваенная контрразведка выявіла яе сігналы ўжо даўно, год назад. Але станцыю доўга не ўдавалася запеленгаваць — яна карысталася спецыяльнай антэнай, якая пасылала радыёсігналы вузкім пучком, паведамленні ж былі заўсёды кароткімі, і гэта перашкаджала ў працы пеленгатараў. Урэшце, устанавілі, што яна дзейні-

176

чае з раёну Карлсцуста. Былі зроблены ўсе меры, каб знайсці і ліквідаваць станцыю. Аднак гэта не ўдалося — рацыя працавала па вельмі складанай сістэме чаргавання частот, дзён і гадзін перадач, і гэта зводзіла на нішто ўсе намаганні контрразведкі. Да таго ж, дзейнічала яна з розных месц раёна. Не менш цяжкай справай аказалася расшыфроўка перахопленых радыяграм. Толькі адзін раз удалося дабіцца частковага поспеху і прачытаць кароценькае паведамленне. А потым станцыя перайшла на новы код, які нельга было разгадаць. У абверы падазравалі, што ўладальнікі тайнага перадатчыка прымяняюць спецыяльную шыфравальную машынку — чартоўскае вынаходства рускіх, аб якім у германскай ваеннай контрразведцы ходзяць толькі сумныя чуткі. Але і адной расшыфраванай радыяграмы аказалася дастаткова, каб у абверы перапалохаліся — дык у паведамленні была гутарка аб тайным схові шчы архіваў, і перадала гэтыя даныя рацыя, якая знаходзілася ў Карлсцусе, гэта значыць менавіта там, дзе і размешчана сховішча!..

Пасля гэтага і задумаў Упіц сваю камбінацыю з закідкай цераз лінію фронта агента і перабежчыка.

Упіц зноў прачытаў атрыманую шыфроўку. Расселіся апошнія сумненні. Цяпер ён быў упэўнены, што дабіўся свайго. Калі з Карлсцуста ў Остбург перабазавала рацыя рускіх, то з ёй, зразумела, перамясціліся і яе гаспадары. І так, савецкая разведка перанацэлена на Остбург.

177

Групенфюрэр аблегчана ўздыхнуў.

Вечарам Упіца чакаў яшчэ адзін сюрпрыз.

Ад'ютант увёў наведвальніка. Гэта быў чалавек, на разведку якога фактычна цяпер працаваў Упіц.

— Вы? — толькі і змог вымавіць групенфюрэр.

— Як бачыце, я, — усміхнуўся госць.

Наведвальнік нядбайна кінуў на спінку крэсла пыльнік, шпырнуў туды ж капялюш, усеўся.

— Ну, — сказаў ён, выпускаючы клуб дыму, — як ідуць нашы справы, дарагі Упіц?

* * *

А ў гэты дзень у Маскве генерал Лыкаў і Рыбін уселіся за маленькі столік ля акна. Лыкаў паклаў перад сабой ліст паперы, пахлопаў па ім рукой. Гэта было падрыхтаванае спецыяльнай службай апаратыўнае паведамленне. Указвалася: у Берліне заўважана з'яўленне Фрэда Тэдэра, адказнага прадстаўніка кіраўніка іншаземнай разведкі. Тэдэр быў канспіратыўна прыняты начальнікам першага ўпраўлення абвера, генералам Эрвінам Лахузенам. Затым ён знік.

Сёння Сэдэр з'явіўся ў Остбургу, дзе сустрэўся таксама тайна, з групенфюрэрам Упіцам. Мэта сустрэчы не ўстаноўлена.

(Працяг на стар. 7)

178



# „Пахучы" дур'ян

Зялёна-шэры, падобны да ёжа і мяча плод. Расце на 60-метровых дрэвах. Мае той станоўчы бок, што... смярдзіць. І то як!

Ніякі з вядомых нам смуродаў не можна зраўняць са смуродам дур'яну. Яго смурод — гэта смурод над смуродамі, суперсмурод, і д э а л ь н ы смурод.

Смурод вагона згніўшых рыб, або адкрытага каналу з адхожага месца выдаецца запахам руж у параўнанні з смуродам дур'яну.

Яго запах не толькі моцны, але і трывалы. Прыслузе гасцініц на Цэйлоне (тут дур'ян ядзяць) забаронена есці дур'ян у дні працы, бо «пахнуць» яны праз 24 гадзіны.

Аднак... Аднак не толькі Інданезія, але ўся Паўднёва-ўсходняя Азія паядае тоны дур'яну. Гэта іх прысмак першага класа. Што ж, да ўсяго можна прывыкнуць. А азіяты ядзяць жа дур'ян ад малога.

Плод дур'яну дарагі, але на гэта ніхто не зважае.

У сезоне адбываюцца «чорныя абедні» з дур'яну. Выключна мужчынская забава. Жанчын і дзяцей адпраўляецца да сваякоў. Прыходзіць прадаўшчык дур'яну і... пачынаецца оргія. На кожным плодзе выразаецца нешта ў кшталце літары V. Потым кожны кідаецца на свой плод. Есць рукамі, апалосківаючы іх у халоднай вадзе. Гасціна ідзе і смурод расце.

Дур'яну нельга перанесці на іншыя кантыненты. Не таму, што забаронена, ці людзі мо' не прызвычаіліся б. А толькі таму, што ніякі самалёт не возьме дур'яну на свой борт. Адна штука засмуродзіла б найбольшы самалёт.

Вачавідцы расказваюць, што дур'ян любяць не толькі людзі. Тыгры таксама. Тыгр, які чакае пад дрэвам дур'яну на плод, не страшны. Бывае, што ў адным кусце пільнуе тыгр, у другім чалавек. І так спатыкаюцца найбольшыя ворагі, не страшныя адзін другому.

апр. вл.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

### АДТУЛЬ НЕ БЫЛО ПАВАРОТУ

...На канцы ліны апушчанай з рэі прывязана скрыня, якая раз-пораз нырае ў хвалях. Круціцца, быццам трэска, а з яе шчылін пырскае салёная вада. У гэтай драўлянай труне чалавек не можа змясціцца ва ўвесь рост. Цесната не дазваляе на які-небудзь рух рукою або нагою. Цягнуты такім чынам па паверхні акіяна, топлены пры перахілах карабля, вязень вытрымоўваў у найлепшым выпадку паўгадзіны кары «ныраючай скрыні». Калі па загаду афіцэра матросы ўцягвалі скрыню на палубу, замкнуты ў ёй чалавек быў ужо непрытомным.

Кару «ныраючай скрыні», а таксама цялеснае пакаранне, карцэр, галадоўка, закаванне ў кайданы прадбачана ў каралеўскім статуце, якому падпарадкавана англійскія караблі прызначаныя для вывазу засуджаных у далёкую ссылку.

* ✲ *

У XVIII ст. лік насельніцтва Англіі павялічыўся ад пяці з палавінай да дзевяці мільёнаў людзей. Разам з развіццём прамысловых гарадоў шырыліся злачынствы. Турмы былі перапоўнены. Тады задумана выкарыстаць засуджаных для працы на амерыканскіх плантацыях цукровага трыснягу. Аднак, у 1779 годзе каланіяльныя плантатары адмовіліся ад мала прыдатных у гарачым клімаце белых вязняў - нявольнікаў. Ляпей аплачваўся ім прывоз негрыцянскіх нявольнікаў з Афрыкі — перад усім з Гвінеі.

Неўзабаве вынайдзена новае месца для ссылкі. Вось славуты падарожнік капітан Кук далучыў да брытанскай імперыі далёкую аўстралійскую зямлю. Краінай «цудоўных лугоў і буйных паш, дзе пражывае ўсяго жменька дзікуноў» прызнана аколіцы цяперашняга горада Сідней. Тут чакаў «памысны лёс для злачынцаў, якія прычыняюць краіне шмат турбот». Так напісана ў афіцыйным праекце ад 18 жніўня 1786 года.

Праз няцэлы год, у маі 1787 года, рушыў «першы флот» у складзе адзінаццаці караблёў пад камандваннем капітана Філіпа. Везена 717 вязняў — у тым ліку 192 жанчыны. Высадка адбылася ў паўднёва - ўсходняй Аўстраліі, у заліве порта Джэксан, непадалёку Сідней. Капітан Філіп быў расчараваны новай калоніяй. — «Тут сумна, пустынна і няўтульна», — пісаў ён у сваім рапарце і перасцерагаў англійскі ўрад, каб не высылаць сюды вязняў, бо памруць яны ад голаду. Жывёліна здыхае ад заразы, збожжа не расце, дзічыны вельмі мала. Проста, няма чаго есці! Але ўрад не лічыўся з думкамі нейкага капітана. ...Як хутчэй сфармавана «другі флот».

Да 1853 года вывезена на ссылку ў Аўстралію 108.716 асоб. Каб справіцца з транспартам англійскія ўлады наймалі нават караблі гандляроў нявольнікамі, што лавілі ў Афрыцы неграў і перавозілі іх на амерыканскія плантацыі. Плацілі ім па 20 фунтаў ад кожнага вязня. Гандляры ў пагоні за даходам, грузілі вязняў столькі, колькі можна было ўціснуць пад палубу. Што дзесяты з іх паміраў у час шасцімесячнага марскога падарожжа — рэшта выходзіла на аўстралійскі бераг ледзь трымаючыся на нагах. Каго там толькі не было!? Крымінальшчыкі і даўжнікі, фальшывальманетчыкі і жабракі злоўленыя на крадзежы буханка хлеба; шатландскія паўстанцы і ірландскія змоўшчыкі, браканьеры і дэзерціры, несумленныя медыкі і рабочыя з мануфактур. Усе, пераважна, простыя, непісьменныя людзі, якія дагэтуль ведалі свет не далей аколіцы свайго роднага мястэчка, парафіі. Аўстралія з'яўлялася ім чымсьці так адлеглым, як Марс або Венера ў наш век.

Катлом подласці і зладзейскім універсітэтам празвалі аўстралійскі кантынент. Павароту назад не было!

а-ся

### ТАННЫЯ ХАЛАДЗІЛЬНІКІ

Тыя, хто бывае на рыбных промыслах вясной. летам і восенню, ведаюць, як цяжка захаваць рыбу: не хапае транспарту, няма рэфрэжэратараў. Часта гінуць сотні і сотні тысяч цэнтнераў улову. Асабліва гэта бывае ў аддаленых раёнах.

На Чукотцы прыдумалі арыгінальны спосаб захавання рыбы, марскога звера. Калгаснікі арцелі «Палярнік» у вечнай мерзлаце на сяміметровай глыбіні высеклі траншэю, якую загрузілі рыбай. За лета не прапала ні адной рыбіны.

Цяпер на Чукотцы намечаны своеасаблівы генеральны план наступлення на вечную мерзлату. Будзе пабудавана 235 новых «мярзлотнікаў», — як тут называюць глыбінныя халадзільнікі.

### ІНДЗЕЕЦ І РЭКЛАМА




Міжнародная ярмарка ў Парыжы. Амерыканскі павільён. А як Амерыка, то і рэклама. І за што толькі не хапаецца амерыканская рэклама. На здымку — рэклама пры дапамозе алігатара (амерыканскі кракадзіл) з двума індзейцамі. Адзін з іх у арыгінальным індзейскім уборы.

Выясняем, што індзейцы ў Амерыцы жывуць цяпер толькі ў рэзерватах, дзе захоўваюць свае звычаі і абрады. Засталося іх нямнога і тыя выміраюць у няволі.

(вл)

### НОВЫ ДЫСКАПЛАН



Так выглядае самы новы савецкі дыскаплан. Ім савецкія спартсмены збіраюцца біць сусветны рэкорд у палёце на цэль.

## ЯК ПРАДБАЧЫЦЬ ПАГОДУ

### ЗАЎТРА БУДЗЕ ДОБРАЯ ПАГОДА

Ранак ясны і халодны, на траве буйная раса. Туман сцелецца па вадзе, хутка знікае пасля ўсходу сонца. Лёгкі ветрык. Вяночкі палявой бярозкі распускаюцца насустрач сонцу.

Да полудня паяўляюцца кучавыя воблакі, вецер мяняе напрамак. Шпарка ўвіхаюцца мурашкі і павукі. Удзень неба сіняе. Дым з комінаў у бязветраны дзень падымаецца проста ўгору. Лёгкая дымка ахутвае далі.

Адвячоркам кучавыя воблакі знікаюць, ціхне вецер. Пчолы рана пакідаюць налёт. Захад жоўты, залацісты або ружовы. Паяўляюцца камары і мошкі. Нізка над зямлёю праносяцца жукі. Пасля захаду сонца безупынку лётаюць кажаны.

Ноч ціхая, бязветраная; у лесе цяплей чымсьці ў полі. Паказваецца буйная раса.

### БУДЗЕ СУША

Ранкамі і вечарамі моцная раса. Раннія і вячэрнія зоры залацістыя, ружовыя і жоўтыя, а перад усходам сонца — і зеленаватыя. Калі зялёны колер моцны, чакай сушы. Пасля ўсходу сонца ўзнімаецца вецер, сціхае да полудня альбо адвячоркам.

Удзень каля вялікай вады вецер дуе ўбок сушы. Колер неба цёмнасіні, небакрай здаецца высокім, пры слабым ветры і яснай пагодзе — далікатна блакітным. Дым падымаецца ўгору. П'яўкі ў вадзе спакойныя, трымаюцца дна. Днём спёка, а ўначы холадна або прахладна. Ўвечары і ноччу ў нізінах і каля пыльных дарог імгла, знікае пасля ўсходу сонца. У слаба мігаючых зорках узмацняецца зялёны адцень. Сільная раса.

### ЧАКАЙ ПЕРАМЕНЫ ПАГОДЫ

Яркачырвоны альбо багровы колер зары перад усходам сонца і багровая вячэрняя зара — к вятрам. Удзень неба бялявае, выцвіўшае, без аблакоў, здаецца мутным; куры і вераб'і купаюцца ў пылу; дым з камінош сцелецца нізка па-над зямлёю; ахалода.

Пад вечар вецер мацнее; сонца заходзіць за хмару; далёка чуваць усякія галасы. Вечарам яшчэ цяпло, уначы зоркі мігаюць яркасінім або чырванаватым светам; моцна мігаюць. Вясёлкавы круг вакол месяца прадракае вятры і перамену пагоды.

### НАБЛІЖАЕЦЦА ДОЖДЖ

Ранкам трава сухая. Кветкі адуванчыка не раскрываюцца. Прызямны туман расплываецца яшчэ да ўсходу сонца. Аблакі хвалямі займаюць усё неба. Дым кладзецца ўніз, сцелецца па зямлі. Канюшына хіліцца і змыкае свае пялёсткі.

Увечары пчолы доўга працуюць да цямна. Рыбы выскакваюць з вады і ловяць мошку. Захад сонца чырвоны.

Выразна чуваць далёкія размовы. Назаўтра пчолы нікуды не вылятаюць. У авец вільгатнее воўна, сырэе соль. Туман з вады падымаецца ўгору. Жывёліна лакома есць траву. «Плача» перад даждж ом лебяда, моцна пахнуць кветкі.

### ІНШЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Вялікія бульбаўкі на калужынах — дажджлівая пагода зацягнецца.

Начны матылёк залятае ў хату — чакай халодных вятроў.

Вераб'і сядзяць натапыраныя — на дождж.

Воблакі плывуць ва ўсе бакі — чакай буры.

Воблакі плывуць нізка — на дождж і холад.

Праз некалькі дзён відаць белыя воблакі — на холад; цёмныя і чорныя — на дождж.

Мала відаць зорак — чакай дажджу.

Грымоты ў верасні прадракаюць цёплую восень.

Многа павуціння — на доўгую, сухую восень.

Павуцінне сцелецца па раслінах — на цяпло.

Вароны ўзлятаюць пад хмары — на перамену пагоды.

Ад першага снегу да саннай — шэсць тыдняў.

а-ся

# Трыбуна чытачоў

## Пры шуме Пушчы

Двума прыгожымі майскімі днямі 10 і 11 у Белавежы адбываўся семінар для кіраўнікоў грамадскіх бібліятэк і інструктараў, якія працуюць сярод нацыянальных меншасцей у нашым ваяводстве. Семінар, як штогод, арганізавала Ваяводская бібліятэка. Прыехалі бібліятэкары ад літвінаў, украінцаў і найбольш ад беларусаў.

Праграма багатая. Лекцыі чыталі між. інш. др **Фларыян Неуважны** і мгр **Аляксандр Баршчэўскі** — абодва з Варшаўскага універсітэта.

Вельмі цікава прадстаўлены былі актуальныя матэрыялы аб чытальніцтве нацыянальнай літаратуры. Гэтую тэму рэферавала інструктар Ваяводскай бібліятэкі — **Станіслава Штукоўская.** Пастараемся ў скарачэнні падаць гэтыя матэрыялы ў будучым.

На заканчэнне, так як стаяла сонечная прыгожая пагода, удзельнікі семінара на чале з дырэктарам Ваяводскай бібліятэкі — **Уладзіславам Малеўскім** вырушылі пратоптанай турыстычнай сцежкай да дуба Ягайлы. (вл)

## КРЫНКАЎСКІЯ КРЫНІЦЫ

Хто першы ў Крынках пачаў выкарыстоўваць крынічную ваду, якая крыніцай з-пад зямлі б'е на некалькі метраў уверх — невядома. Нават найстарэйшыя жыхары Крынак не памятаюць ініцыятара артэзіянскіх калодзежаў. Крынічная вада стагоддзямі як летам так і зімой б'е ўгору. У зямлю ўваткнута толькі жалезная труба. Летам некаторыя жыхары Крынак перахоўваюць у гэтай вадзе мяса. Яно заўсёды тут свежае і не сапсуецца. Непатрэбна лядоўка. Ну і самая вада — смачнейшай і здаравейшай не знойдзеш на Беласточчыне! (вб)

На здымку: артэзіянскі калодзеж у Крынках.

Фота — **В. Млыньчык**



## Вучнёўскі магазін

Пры школе ў Ляшуках ёсць вучнёўскі магазін, які працуе ўжо два гады. У ім прадаюцца сшыткі, алоўкі і шмат іншых рэчаў патрэбных да вучобы.

Каб залажыць гэты магазін спатрэбілася шмат грошай. І вось тады кожны вучань нашай школы даў па 5 зл. укладу і па 1 зл. упісовага. Такім чынам сабралі 600 зл. Тады выбралі прадаўца — вучня VII класа Мікалая Харкевіча і бухгалтара Стэфана Варанецкага. І так пачаў працаваць вучнёўскі магазін. Часта змяняліся і прадаўцы і бухгалтары, але ў магазіне ўсё было ў парадку. Абарот зрабілі на 11000 зл. Усе вучні задаволены са свайго магазіна і дзякуюць кіраўніку школы за тое, што падтрымаў і так добра пакіраваў гэтай справай.

**Яўгені Рэент**
Міхноўка

## Найлепш у Плёсках

Формы асветнай працы грамадскіх бібліятэк у Бельскім павеце даволі разнародныя. Найчасцей арганізуюцца вечары казак — 15 вечараў у I квартале б.г. Далей ідуць літаратурныя вечары, ці як называюць іх вечары галоснага чытання, чытання матэрыялаў «Нівы» і г.д.

Грамадская бібліятэка ў Плёсках шукае новых форм асветнай працы. Да рэчы, бібліятэка ў Плёсках увогуле найбольш працуе з чытачамі. Да гэтых успомненых новых форм яе працы належыць: арганізаванне вечара гумару і вечара, які бібліятэка назвала «Сардэчныя тайны» і правяла яго на базе лістаў чытачоў да «Сэрцайка». вл

## З Н. БЕРАЗОВА І КОЙЛАЎ У ШЫРОКІ СВЕТ

45 асоб з Новага Беразова і Койлаў выедзе на экскурсію ў Кентшын і Аструду, у Ольштынскім ваяводстве. Экскурсія арганізавана гайнаўскім аддзелам БГКТ пры выдатнай дапамозе кіраўніка школы з Новага Беразова — **Мікалая Чабая.** Аўтакар дае Галоўнае праўленне БГКТ. Удзельнікі экскурсіі плацяць па 80 зл. (вл)

## МАЛАЧАРНЯ Ў РЭПІСКАХ

Сяляне нашай вёскі раней вазілі малако ў Ласінку. Але гэта вельмі далёка. І вось яны рашылі зрабіць малачарню ў сваёй вёсцы. Зараз яна знаходзіцца ў канцы вёскі, каля школы. Малако прымае Марыся Паўлоўская. Па малако прыязджае самаход з Гайнаўкі.

**Шура Семенюк**
Рэпіска.

## ПАЧАТКОВАЯ АСВЕТА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Кіраўнік пачатковай школы ў Старым Ляўкове Васіль Цялушэцкі арганізаваў вячэрнюю школу для дарослых з VII класам навучання. Ахвотных закончыць пачатковую школу было 20 асоб. Заняткі пачаліся восенню мінулага года і адбываліся чатыры разы ў тыдзень па некалькі гадзін у дзень. Заняткі закончыліся яшчэ на пачатку месяца мая. Паспяхова прайшлі экзамены. Удзельнікі вячэрняй школы былі задаволены магчымасцямі вучыцца і не прапускалі урокаў, уважліва слухалі настаўніка, стараліся не прапускаць ніводнага слова. Настаўнікі вялі урокі цікава і не толькі тэорыяй, але і практыкай змянялі спосабы вядзення лекцыі. І таму ўдзельнікі шлюць ім самыя лепшыя пажаданні і дзякуюць за клопаты і стараннi, каб падняць узровень ведаў сваіх аднавяскоўцаў.

**Я. Ц.**

## ТРАГЕДЫЯ ЧАЛАВЕКА

Я жыву ў вёсцы Ляшукі (Гайнаўскі павет). Наша суседка, Вера Харкевіч, мае шмат зямлі, а ў сувязі з гэтым працуе ад раніцы да позняй ночы. На сваім утрыманні мае дзве дачкі (адна вучыцца ў Гайнаўцы ў ліцэі, а другая ходзіць у пачатковую школу) і хворага мужа — Касцюка. І вось тут пачынаецца трагедыя. Касцюк ужо хварэе адзінаццаць год, пааднімала яму рукі і ногі, і ён не можа хадзіць. Ён праз усе гэтыя гады ляжыць у ложку. Няма каму апекавацца ім, асабліва ў гарачыя летнія дні, калі няма каму даць яму піць або есці. Дакучаюць мухі. Жонка клапацілася, каб забралі Касцюка ў бальніцу. У Гайнаўцы сказаў ёй, што ёсць такая бальніца ў Ломжы, дзе невылечных хворых трымаюць да смерці, а ў месяц за гэта плаціцца 150 зл. Вера на гэта згадзілася. Праз месяц прыйшоў адказ, што свабодных месц у бальніцы няма. Беласток паведаміў, што ёсць яшчэ такая бальніца ў Сувалках. Прымуць толькі тады, калі Касцюк будзе мець прасвятленне.

Хто ж павязе Касцюка, каб зрабіць яму гэтае прасвятленне? Прайшло ўжо некалькі месяцаў, а Касцюк прадоўжвае ляжаць на сваім ложку.

**Толік Харкевіч**
Ляшукі

(Працяг са стар. 3)

— Няўжо архівы? — спытаў Рыбін.

— Так. — Лыкаў кіўнуў. — Вельмі праўдападобна.

Як ужо гаварылася, органы дзяржаўнай бяспекі Савецкага Саюза атрымалі нямала звестак аб тым, што іншаземная разведка цікавіцца архівамі германскай сакрэтнай службы, асабліва — архівамі з усходу, намагаюцца захапіць іх. Былі даныя аб настойлівых спробах гэтай разведкі наладзіць кантакт з работнікамі РСХА, выяўлены былі сустрэчы прадстаўнікоў дзвюх разведак, якія адбыліся ў нейтральных краінах.

І вось, калі на адным з участкаў дзейнасці савецкай разведкі дасягнуты поспех — цаной велізарных намаганняў выяўлена праўда аб сховішчы на Эльбе і можна было прыступаць да падрыхтоўкі аперацыі па адабранні архіваў, — на шляху маёра Керымава і разведчыкаў, якія дзейнічалі ў Карлслусце, узнікла новая перашкода.

Асабліва трывожыла, што Тэдэр пайшоў на такі рызыканцкі крок, як прыезд у варожую краіну. Відавочна, яго гаспадары вырашылі дастаць архівы, што б гэта не каштавала, і фарсіруюць выпадкі!

Лыкаў паклікаў палкоўніка Чыстова. Утраіх яны заселі за распрацоўку плана далейшых дзеянняў. Трэба было спяшацца.

Працяг за тыдзень

179




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву ў вёсцы П. тры кіламетры ад Бельска. Маю 17 год і пяць класаў пачатковай школы. Вучыўся я добра, толькі мае бацькі не дазволілі мне далей вучыцца. Сказалі: аставайся дома, будзеш памагаць нам у гаспадарцы. А здольнасці я меў і цяпер ад кніжкі трудна мяне адарваць.

Дарагое Сэрцайка, парай мне, дзе скончыць пачатковую школу, бо ў нашай вёсцы ніколі не арганізуюцца вечаровыя курсы з праграмай пачатковай школы і ў суседніх вёсках таксама іх няма.

**Пеця** з вёскі П.
Бельскі павет

Дарагі **Пеця!**

Падабаецца мне, што Ты, Пеця, пастанавіў аднак скончыць пачатковую школу. На жаль, бацькі твае не мелі рацыі, бо ж і на гаспадарцы працаваць таксама трэба мець пачатковую школу, а вельмі добра мець яшчэ сельскагаспадарчую адукацыю. Гэта ж паможа і лягчэй, і лепш, і выдайней працаваць на гаспадарцы.

Адносна таго, што няма ў тваёй і суседніх вёсках курсаў з праграмай пачатковай школы (VI—VII кл), раю табе пагаварыць з іншымі маладымі людзьмі ў вёсцы, якія таксама як ты не маюць поўнай пачатковай адукацыі і супольна звярніцеся ў Інспектарат асветы або ў Павятовы Саюз сельскагаспадарчых гурткоў у вашым павеце з просьбай, каб арганізавалі ў вёсцы такія курсы. Калі моладзь у сваёй вёсцы цябе не падтрымае, напэўна знойдуцца разумнейшыя ў суседніх вёсках.

Жадаю поспехаў і абавязкова закончыць пачатковую адукацыю.

**СЭРЦАЙКА**

# КІНО

Праграма на 1—7.VII.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Pod słońcem Indii" (hinduski), 2—4. „Kolorowe pończochy" (polski), 5—7.

**Кляшчэлі**
„Śladami Ikara" (radz.), 2—4. „Dom na rozstaiach" (radz.), 5—7.

**Навасады**
„Pan i Astrolog" (czeski), 6—7.

**Нараў**
„Jadą goście, jadą" (polski), 3—7.

**Нараўка**
„Ukryte skarby" (czeski), 3—7.

**Чаромуха**
„Rok przestępny" (radz.), 2—4. „Kolorowe pończochy" (polski), 5—7.

**Чыжы**
„Pierwszy lot w Kosmos" (radziecki), 3—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Бонькі**
„Dwaj panowie N" (polski), 3—7.

**Бранск**
„Wesołe historie" (radz.), 2—4. „Sami na oceanie" (radz.), 5—7.

**Орля**
„Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Przygody Munchhausena" (czeski), 2—4. „Na białym szlaku" (polski), 5—7.

**Міхалова**
„Orkiestra wojskowa" (węgierski), 2—4. „Zmartwychwstanie" s. II (radz.), 5—7.

**Супрасль**
„Manekin Pis" (holenderski), 2—4. „Opowieść o prawdziwym człowieku" (radz.), 5—7.

**Чорна Беластоцкая**
„Nikt nie zna prawdy" (radz.), 2—4. „Ciau, ciau bambino" (włoski), 5—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Ostatni świadek" (NRF), 2—4. „Na białym szlaku" (polski), 5—7.

**Мілейчыцы**
„Torreador" (meksykański), 2—4. „Czternaście dni" (radz.), 5—7.

**Нурэц**
„Dama z perłami" (NRD), 2—4. „Orkiestra wojskowa" (węgierski), 5—7.

**Сідра**
„Globke — biurokrata śmierci" (NRD), 2—4. „Bariera ognia" (radz.), 5—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Янаў**
„Skrawek błękitnego nieba" (jugosł.), 2—4. „Ogniomistrz Kaleń" (polski), 5—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Żebro Adama" (USA), 6—7.

У мясцовасцях Райск, Гродзіск, Крынкі, Сухаволя, Шудзялова і Ліпск у днях 1—7.VII. фільмы высвятляцца не будуць.



Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok i Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024.
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CRZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5458 Bltk A 3

 

КУР'ЁЗЫ

## Чым немцы чысцяць боты?

Амерыканскі парламенцёр Джон Мурпі пратэстуе супроць «вывазу старых амерыканскіх сцягоў у Еўропу». Заявіў ён, што нядаўна адпраўлена з Нью-Йорка ў Заходнюю Германію транспарт старызны, дзе знаходзілася тысячы старых амерыканскіх сцягоў, якія немцы перарабілі на шматкі для чысткі ботаў.

Мурпі абураны гэтым фактам і лічыць, што такім чынам амерыканцы паніжаюць сваю нацыянальную годнасць.

а-ся

## Для паляўнічых

Жанчыну, якая начапіла на сябе аж дзве лісіныя шкуркі, спыталі:

— Нашто вы столькі лісаў павесілі адразу?

— Чым больш лісаў, тым больш паляўнічых, — адказала тая.

* * *

## Яго турботы

Лектар сказаў:

— Пры камунізме рабочы дзень трываць будзе не больш дзвюх гадзін.

Раптам падняўся лодар і спытаў:

— А перапынак на абед будзе?

* * *

## Страта часу

— Калі б вы мелі жыць яшчэ раз, — пытае малады чалавек старэйшага грамадзяніна, — ці рабілі б вы тыя самыя памылкі?

— Зразумела! Толькі пачаў бы раней...




## НЕ БОЙСЯ, ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ

Не бойся, вельмі паважаны,
Падай руку, падай, не бойся,
Што ў фартуху, з вядром бляшаным
Яна стаіць на сцежцы босая.

Глядзіш і думаеш: «Няёмка!»
А ты забудзь на «чын саноўны»
І капялюш, што як даёнка,
Ты перад ёй здымі, шаноўны.

Пагавары з ёй трохі шчыра,
Не па-начальніцку, а проста...
Скажы хоць «дзякую» жанчыне
За малачко, што п'еш удосталь!

НІЛ ГІЛЕВІЧ



— Дай праехацца!

## Паспешнасць

Два вадалазы працуюць пад вадой. Раптам адзін з іх атрымлівае загад па радыё і гаворыць да сябра:

— Клічуць нас наверх і то хутка!

— Чаму?

— Лодка тоне!

С. МРОЖЭК

## ЗАЯВА

Ветліва прашу падаць да майго століка адбіўную катлету. Просьбу сваю матывую тым, што я галодны. Аўтабіяграфію далучаю. У 1945 годзе, зараз пасля акупацыі, затраціў я мноства калорыяў у час адгрузавання. У 1952 годзе мне давялося ўскочыць да халоднай вады, каб ратаваць чыгуначніка, які тапіўся. Такім чынам я шмат прычыніўся да асенніх перавозаў ПКП. У сувязі з гэтым, калі гэта магчыма, прашу таксама да катлеты дадаць капусту (магчыма свежую). У 1958 годзе ў выніку неразважнага хукнуця на міліцыянера мяне ўзялі на перапампоўку жывата і гэта моцна абніжыла маю агульную каларычнасць. Таму незалежна ад капусты прашу таксама дадаць бульбы. Апошняя можа быць недаваранай.

Зазначаю, што ў замен за прыхільнае афармленне маёй просьбы, забавязваюся выпіць паўлітра чыстай або чвэрць літра адборнай. У выпадку паспяховага разгледжання маёй заяўкі яшчэ перад вечарам, забавязваюся вярнуць тры нажы і адну вілку, уласнасць вашага прадпрыемства, якія з прычын трагічнай памылкі былі забраны ў мой дом. Дадаткова, у выпадку афармлення маёй просьбы на працягу найбліжэйшых дзвюх гадзін, забавязваюся з'есці таго селядца, які ўжо месяц часу ляжыць у вашым буфеце. Незалежна ад вышэй упамянутых у выпадку падання мне катлеты на працягу найбліжэйшай гадзіны ўрачыста забавязваюся сплаціць мой доўг удзячнасці і не заходзіць у вашую сталовую на працягу 2-х тыдняў, каб не перашкаджаць вам у спакойным прысвячэнні ўсіх вашых сіл у барацьбе за далейшы росквіт кулінарыі. З паважаннем кліент у чырвоным шаліку, трэці столік у пераходзе ад туалета.

п(вб)

Станіслаў Ежы ЛЕЦ

## НЕПРЫЧЭСАНЫЯ ДУМКІ

Сцеражыцеся яго, ён макае нож у чарніла!

*

Канец некралога: Не памёр! Змяніў лад жыцця.

*

«Вышэй галаву», — сказаў кат, накідаючы пятлю.

*

Расісты! Не дапускайце чорных думак!

*

Чалавек дыхае вальней, калі трымае язык за зубамі.

## ЗНАЙШОЎ ВЫХАД

— Пятрук, а дзе каструля з павідлам?

— Ды мух да гэтага павідла поўная хата наляцела, то я ім на двор яго вынес.

* * *

## СКЕПТЫКІ

Гутарка двух малышоў:

— Ці ты верыш у д'яблаў? — пытае адзін.

— Э, там, — адказвае абыякава другі, — з д'яблам напэўна так, як з Дзедам марозам. Выяўляецца ўрэшце, што гэта проста татка.

## АПРАЎДАЎСЯ

«Суседзі паскардзіліся ў міліцыю, што я дадому прыходжу п'яны. Растлумачваю, што апошнія дзесяць сутак я дадому наогул не прыходзіў, а начаваў у выцверазільніку.»

(Са скаргі)

## АФАРЫЗМЫ

Цытата лепей за аргумент. Ёй можна выйграць спрэчку нават тады, калі не пераканаеш праціўніка.

*

Алхімікі былі значна лепшымі гандлярамі, чым вынаходцамі. Яны не вынайшлі эліксіру жыцця, але прадалі яго.

*

Больш за ўсё ненавідзеў у сваёй дарослай дачкі тыя рысы і манеры, якімі так захапляўся ў сваёй сакратаркі.

## НЕ СТАНДАРТНЫЯ

Даўно газеты пішуць аб трагедыі не стандартных людзей. Безвынікова! Па сённяшні дзень мучацца грамадзяне, якія выраслі ў непланаваных памерах.

Швейныя фабрыкі згодна з планам шыюць адзежу да 52 размеру. Людзей ростам звыш нормы трэба было б у турму саджаць, але там таксама няма адзежы вялікага размеру.

Упартыя грамадзяне, якія перавыканалі свой рост, вымушаны свяціць пупам — цэнтраадзежа іх не абслугоўвае.

Невядома, як бы гэтая справа павярнулася далей, калі б не вынаходлівасць гаротніка — шведа.

Швед гэты звярнуўся да прафесара Вібера з просьбай аб умяншэнні яго росту. Прафесар Вібер прыняў заказ. Выпілаваў кавалкі косці ў нагах пацыента, і швед стаў на 15 см карацейшым.

Цяпер прафесар Вібер робіць месячна некалькі падобных аперацый. Аказваецца, лягчэй укарочваць людзей, чым пашыць для іх касцюмы.

З грамадзянамі высокімі вырашана пытанне, а што будзе з тоўстымі? Магчыма вытлумачыць нам медыцына, што і як вырэзваць тоўстым людзям для набыцця стандартных памераў.

У сувязі з гэтым прыпомнілася мне гісторыя, калі кліент прынёс матэрыял краўцу Хапуновічу з просьбай пашыць касцюм.

Хапуновіч агледзеў адрэз шагёту і сказаў:

— Мала матэрыялу, з гэтага я не пашыю.

Вяртаючыся дамоў, кліент, па дарозе, зайшоў да краўца Сумленіча. Сумленіч змерыў матэрыял і кліента, потым сказаў:

— Атрымаеце касцюм з жылеткай, а астатак з дзесяці сантыметраў будзе вам на латкі.

Кліент усклікнуў:

— Вы — чараўнік! Хапуновіч не мог пашыць нават пінжака з порткамі.

Сумленіч адказаў:

— Я не чараўнік, проста няма ў мяне малых дзяцей, як у Хапуновіча.

Магчыма, такія ж дзеці ў кіраўнікоў швейных фабрык прымушаюць эканоміць матэрыял і абмяжоўваюцца памерамі 46—52.

Дзядзька Лявонь

## Супакоіў

Укралі ў адной жанчыны кажух. Пайшла яна ў міліцыю скардзіцца. Расказала ўсё, як было. А начальнік кажа:

— Будзе яму цяпер, будзе.

— А што будзе, паночку?

— Цёпленька, — адказаў начальнік.

* * *

## Аб мужы

«Люблю яго, бо гэта чалавек з жалезнай воляй і заўсёды хоча тое, што і я».

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе **Раісы Чабай** з Новаберазова. Гайнаўскага павета. змяшчаем старынную рускую песню

## ТОНКАЯ РЯБІНА

**Что стоишь, качаясь,
Тонкая рябина,
Головой склоняясь
До самого тына?**

**А через дорогу,
За рекой широкой,
Так же одиноко
Стоит дуб высокий.**

**Как бы мне, рябине,
К дубу перебраться,
Я б тогда не стала
Гнуться и качаться.**

**Тонкими ветвями
Я б к нему прижалась,
И зимой и летом
Все бы с ним шепталась.**

**Но нельзя рябине
К дубу перебраться,
Знать ей, сиротине,
Век одной качаться.**

**Что стоишь, качаясь,
Тонкая рябина,
Головой склоняясь
До самого тына?**



«Будзе гэта наш першы грэх, Адам! Мусім адна пачакаць, пакуль яблыка даспее».



— Выбачайце, ці гэтае месца свабоднае?



— Маем шчасце, што нас не прыкмецяць, але, сваёй дарогай, гэта скандал чытаць у часе працы!

 